Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 18 445.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ



Пятніца, 6 сакавіка 1998 г. № 22 Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Беларускае пасольства баіцца

**Каля амбасады Беларусі ў Бруселі дзяжурыла вялізная паліцэйская машына. Беларускае дыпламатычнае прадстаўніцтва спалохалася — і выклікала дапамогу.**

Але нічога страшнага не здарылася. У мінулы аўторак да будынка беларускай амбасады на авеню Мальера прыйшлі тыя, хто хацеў выказаць свой пратэст аўтарытарнаму рэжыму. У Беларусі былі прыгавораныя да зняволення за палітычную дзейнасць двое маладых хлопцаў 16-гадовы Вадзім Лабковіч і 19-гадовы Аляксей Шыдлоўскі, і гэта выклікала шырокі рэзананс у Еўропе. Моладзь, людзі сярэдняга веку і зусім пажылыя перад амбасадай трымалі ў руках плакаты «Беларусі — дэмакратыю», «Свабоду палітычным вязням». Член Еўрапейскага парламента Элізабет Шродтэр, якая ўзначальвае спецыяльную камісію па дачыненнях з Беларуссю, нагадала ўдзельнікам акцыі пра рэзалюцыю Еўрапарламента, што была аднагалосна прынятая ў Страсбургу 19 лютага і дзе рашуча асуджаюцца дзеянні беларускіх уладаў.

Толькі пры дапамозе паліцыі пікетоўцы змаглі перадаць у амбасаду сотні подпісаў, сабраных пад заклікам «Мінск, дай усім тром свабоду», дзе меліся на ўвазе Лабковіч, Шыдлоўскі і Кабанчук. У адказ удзельнікі акцыі пачулі толькі прадстаўніка пасольства, які пацвердзіў законнасць рашэння суда, а таксама абвінавачванні на адрас апазіцыі ў падрыхтоўцы дзяржаўнага перавароту.

У выніку ўдзельнікі акцыі, сярод якіх былі члены Еўрапейскага парламента і прадстаўнікі розных палітычных сілаў Еўропы, прыйшлі да высновы: толькі вельмі слабы ўрад можа забаяцца пратэсту невялікай колькасці дэмакратычнай грамадскасці і заклікаў да захавання правоў чалавека. Усю акцыю здымалі на відэа паліцэйскія службы. «Такія выказванні пратэсту будуць працягвацца, пакуль маладых людзей не выпусцяць з турмы», — прагучала на пікеце.

**Герд ГРУНЭ,**
*прадстаўніцтва Хартыі-97 у Бруселі*

## Пупейка ведае, дзе грошы

**Учора польскі суд прыняў рашэнне перанесці слуханні па справе экстрадыцыі вядомага беларускага бізнесмена Аляксандра Пупейкі на 14 траўня.**

Нагадаем: былы прэзідэнт кампаніі «Пушэ» А.Пупейка быў затрыманы польскімі ўладамі 12 снежня 1997 г. у варшаўскім аэрапорце па просьбе беларускага боку. Беларуская пракуратура абвінавачвае бізнесмена ў невяртанні крэдыту ў памеры 500 тысячаў долараў і дамагаецца ад палякаў вяртання Пупейкі ў Беларусь. У сярэдзіне студзеня ён быў выпушчаны на свабоду пад грашовы заклад, пасля звярнуўся з просьбай прадаставіць яму палітычны прытулак у Польшчы.

Фармальна ўчарашнія слуханні былі адкладзеныя з-за няяўкі ў суд перакладчыка, але, па словах Пупейкі, суддзя Янкоўскі, прагледзеўшы прадстаўленыя беларускім бокам матэрыялы, заявіў супрацоўнікам беларускага пасольства ў Варшаве генералу Сяргею Рухлядзеву і віцэ-консулу Вірко, што выкладзеныя беларускай пракуратурай факты не могуць служыць доказам віны Пупейкі. Суддзя лічыць, што бізнесмен не мог учыніць злачынства, у якім яго абвінавачваюць, паколькі ў названы ў матэрыялах час пастаянна пражываў у Германіі. Адвакаты Пупейкі заявілі суду хадайніцтва з просьбай адкласці слуханні па справе да афіцыйнага адказу польскага міністэрства ўнутраных справаў на просьбу Аляксандра аб прадастаўленні палітычнага прытулку. Напярэдадні судовага працэсу Пупейка ў інтэрв'ю журналістам заявіў, што яму вядома, у якіх банках за мяжою знаходзяцца рахункі Лукашэнкі. У прыватнасці, Пупейка сцвярджае, што ў Кёльне і Дзюсельдорфе ляжаць грошы, атрыманыя ад нелегальнага гандлю алкаголем і цыгарэтамі ў Расіі. Па словах бізнесмена, ён ведае, на якія рахункі перакачваліся грошы, атрыманыя ад продажу зброі. Пупейка сцвярджае, што на замежных рахунках беларускага прэзідэнта знаходзіцца некалькі сотняў мільёнаў долараў.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**
*(Падрабязнасці ў наступным нумары.)*






## Віншуем!

## Там няма амерыканцаў...

**Сёння прэзідэнт Лукашэнка павіншуе «дарагіх жэншчын» і ў суботу адляціць на пяць дзён з афіцыйным візітам у Іран і Сірыю.**

У Іране ўжо знаходзіцца беларускі пасол Леанід Рачкоў, былы палкоўнік КДБ, які да ад'езду ў Тэгеран засядаў у «палаце прадстаўнікоў». Меркавалася, што падчас візіту прэзідэнт Лукашэнка ўрачыста адчыніць беларускую амбасаду ў Тэгеране, але паслу Рачкову пакуль не ўдалося пададбраць асобны будынак і пасольства размяшчаецца ў часовым офісе.

Дарэчы, амерыканскага пасольства ў Тэгеране няма. Злучаныя Штаты скасавалі дыпламатычныя адносіны з Іранам у 1979 г. і па-ранейшаму лічаць гэтую краіну «прамой пагрозай міру».

*(Чытайце на стар. 5 артыкул «Амерыка яшчэ не хутка адчыніць свае пасольства ў Іране».)*

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## Хакеіст нумар адзін закінуў тры шайбы

**4—5 сакавіка Аляксандр Лукашэнка знаходзіўся ў Гродне.**

Спачатку ён уручыў узнагароды. Першым атрымаў ордэн «міні-прэзідэнт» Аляксандр Дубко (так назваў Рыгоравіч старшыню аблвыканкама). Пасля гэтага прэзідэнт крыху пагутарыў на вуліцы з народам, расказаўшы, што быў у Японіі прыватным чынам і што невялікія японцы працуюць «як тараканы».

Журналістаў на інструктажы папярэдзілі, каб яны не фатаграфавалі на вуліцы Лукашэнку ці ягоную машыну, бо рызыкуюць зрабіць «апошні кадр у сваім жыцці». Было забаронена таксама рабіць здымкі ўвечары на хакейным матчы, галоўным удзельнікам якога стаў прэзідэнт.

А перад тым ён паспеў наведаць рэлігійныя ўстановы. Спачатку пабываў у каталіцкай семінарыі, куды прыехаў разам з Заміталіным і Дубко. Яго сустракалі кардынал Казімір Свёнтак і гродзенскі біскуп Аляксандр Кашкевіч. Размова была пра тое, каб вучні семінарыі маглі мець, як і студэнты, адтэрміноўку ў вайсковай службе, а таксама каб было дазволена працаваць у Беларусі замежным ксяндзам. Лукашэнка паабяцаў «вывучыць праблему» наконт семінарыстаў, а пра замежных каталіцкіх святароў заявіў, што ён катэгарычна супраць іх прысутнасці ў Беларусі.

У праваслаўным манастыры прэзідэнта сустракаў мітрапаліт Філарэт. Лукашэнку далі пацалаваць абраз і нагадалі, што да яго тут ужо пабываў калісьці цар Аляксандр III.

Апошнім мерапрыемствам серады стаў хакейны матч у лядовым палацы «Нёман». Спачатку на яго вырашылі не пускаць гледачоў, але потым прыгналі салдат і школьнікаў. На трыбуне таксама было начальства на чале з «міні-прэзідэнтам» А.Дубко. Лукашэнка выйшаў на лёд у форме зборнай Беларусі. На ягонай чырвонай фуфайцы быў нумар I і надпіс *Lukashenko* на спіне. Разам з ім гулялі начальнік аховы палкоўнік Бародзіч, першы намеснік міністра спорту Цыцэрын, намеснік старшыні футбольнай федэрацыі Курбыка, хакейны трэнер Захараў і некалькі чалавек з аховы. На баку гродзенцаў выступаў галоўны трэнер нацыянальнай зборнай Варывончык і іншыя мясцовыя трэнеры. Абое варотаў баранілі гульцы гродзенскага «Нёмана».

Гульня адбывалася па-футбольнаму — з двума таймамі па 45 хвілінаў. Пасля 15-хвіліннага перапынку каля трэці гледачоў зніклі з трыбунаў. Гэта быў своеасаблівы спектакль на лёдзе: Лукашэнка едзе з шайбай і ўсе расступаюцца ў бакі. Узровень ягонай гульні, дарэчы, выглядаў вельмі аматарскім. Начальнік аховы гуляў значна лепш, але не лез наперад і бацьку, бо з'яўляўся абаронцам. Лукашэнка закінуў тры шайбы. Агульны лік матча — 13:13.

*(Працяг на стар. 2)*

## Краіна будзе ведаць імёны ўсіх паштовых тэрарыстаў

**Беларуская пошта вырашыла абараніць нашую краіну ад паштовых тэрарыстаў — людзей, якія перасылаюць бомбы ці іншыя небяспечныя рэчы.**

Цяпер ад тых, хто адпраўляе заказныя альбо каштоўныя лісты і бандэролі па Беларусі, патрабуюць або прад'явіць пашпарт, або здаваць рэчы ў перасылку незапакаванымі. Дзяўчына на пошце мусіць дакладна перапісаць пашпартныя дадзеныя адпраўшчыка на адваротны бок канверта альбо ўважліва паглядзець у яго — каб праверыць, ці няма там чаго недазволенага. Калі канверт раптам выбухне — пошта будзе ведаць, хто ў гэтым вінаваты.

Амерыканцы назвалі б такія захады ўмяшальніцтвам у асабістае жыццё, парушэннем тайны перапіскі і падалі б у суд на паштовую адміністрацыю. Беларусы пакуль церпяць, хоць у беларускай канстытуцыі таксама запісанае права на асабістае жыццё і тайну перапіскі.

Як паведаміла ў міністэрстве сувязі начальнік упраўлення пошты Раіса Жыгалка, «паштовыя правілы дазваляюць у надзвычайных выпадках патрабаваць дакументы ад адпраўшчыка». Але хіба такі ўжо надзвычайны выпадак — заказны ліст? Права на прагляд карэспандэнцыі афіцыйна маюць толькі следчыя органы, і толькі з дазволу пракурора. Пошта пакуль яшчэ не атрымала паўнамоцтваў следчых органаў, але ўжо заглядвае ў чужыя канверты.

Раіса Жыгалка падкрэслівае, што новы парадак уведзены толькі на «некаторы час». Але што будзе, калі той «пэўны час» скончыцца, яна паведаміць адмовілася. Наколькі нам вядома, ідзэю праверкі карэспандэнцыі падкінуў пошце Савет бяспекі.

Дарэчы, Р.Жыгалка з цяжкасцю змагла прыгадаць толькі адзін выпадак, калі паштовы супрацоўнік сапраўды пацярпеў ад нейкай пасылкі. Гэта здарылася 10 гадоў таму.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Хакеіст нумар адзін закінуў тры шайбы

*(Пачатак на стар. 1)*

У чацвер А.Лукашэнка больш за дзве з паловай гадзіны ў драмтэатры чытаў свой даклад з лірычнымі адступленнямі. Папершае, Рыгоравіч даў зразумець, што прэзідэнцкіх выбараў у наступным годзе не будзе, пакольк ён збіраецца кіраваць да 2001 года. Па-другое, калгасы і саўгасы ён назваў дзяржаўнай палітычнай структурай на вёсцы і забараніў спрэчкі наконт неабходнасці іх захаваць. Праўда, 30% калгасаў адстаючыя, калектывы якіх спіліся і дзяржаўныя субсідыі туды трапляюць як у бочку — прызнаў прэзідэнт. З даклада вынікала таксама, што без пагрозы турэмнага зняволення шмат дзе калгаснікі не жадаюць берагчы грамадскую маёмасць як сваю, тэхніку дабіваюць да ручкі, «гробяць, курочаць, ламаюць». А ў Магілёўскай вобласці, па словах Лукашэнкі, класнасць кармоў вызначаюць так: сядаюць на краі сіласнай ямы, выпіваюць па бутэльцы і пішуць што захочуць.

Прэзідэнт параіў старшыням тых калгасаў, дзе малыя надоі, замест кароў трымаць коз. Яшчэ ён расказаў, што ў калгасе «Рассвет», кіраўнік якога пасаджаны ў турму, спісалі закускі і выпіўкі за кошт гаспадаркі больш чым на мільярд рублёў. Лукашэнка хацеў назваць, якія там былі канкрэтна спісаныя напоі, але чамусьці пасаромеўся, толькі параіў прысутным не мяняць гонар і годнасць на дармавую выпіўку і закуску.

Прэзідэнт таксама распавёў, як па ягонаму ўказанню Савет бяспекі правярае машыны, у якіх бедныя беларусы вывозяць у суседнюю братнюю Расію прадукты. Лукашэнка назваў, кольк і ў рукзаках было знойдзена тваргу, вяршкоў і каўбасы. Затым ён пачаў здзекавацца з таго, што кіраўнік Гродзенскага хімічнага прадпрыемства паехаў у Амерыку. «Я там быў тыдзень, прыйдзіце і я вам усё раскажу, — сказаў прэзідэнт і дадаў, — Калі ў кагосьці пачалі рогі вырастаць, то іх трэба збіваць, пакуль не позна».

Лукашэнка параіў шэфу тэлебачання і рэдактару «Советской Белоруссии» не тыражаваць ягоны даклад «да ташнаты». Бо хутка яны пачнуць крычаць: «Няхай жыве вялікі правадыр Лукашэнка!» — пакрыўджана зазначыў ён і па-філасофску падкрэсліў, што «рабства ў нашай крыві самае горшае, што ў нас ёсць».

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Ці выпусцяць Клімава з-пад варты?

**Адвакат Вера Страмкоўская, якая абараняе арыштаванага прадпрымальніка і дэпутата Андрэя Клімава, падала хадайніцтва аб змяненні меры стрымання свайму падабароннаму на падпіску аб нявыездзе.**

Да хадайніцтва далучаныя заявы некалькіх грамадскіх арганізацыяў і партыяў Беларусі — Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), Беларускага Хельсінкскага камітэта, грамадскай ініцыятывы «Хартыя-97», дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га скліканя і іншых. У хадайніцтве адзначаецца, у прыватнасці, што Клімаў з'яўляецца законна абраным дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання; выхоўвае траіх непаўналетніх дзяцей; поўнасцю паралізаваная вытворчая дзейнасць фірмы, якой кіруе Клімаў, што наносіць значны ўрон акцыянерам і яе работнікам. Жонка Клімава таксама пісьмова звярнулася да следчага, запэўніўшы яго, што адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе яе муж не будзе хавацца ад следства.

На мінулым тыдні крымінальная справа А.Клімава, якому інкрымінуецца крадзеж у асабліва буйных памерах і парушэнне парадку ажыццяўлення прадпрымальніцкай дзейнасці, была перададзеная ў камітэт па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю МУС. Следства вядзе Аляксандр Кужаль. Сам Андрэй Клімаў, які ўтрымліваецца ў следчым ізалятары, знаходзіцца сёння ў нармальным фізічным і маральным стане, паведаміла пасля сустрэчы з ім адвакат Вера Страмкоўская. Дэпрэсія, што стала адным з наступстваў абвешчанай Клімавым пасля арышту сухой галадоўкі, прайшла. Умовы ўтрымання Клімава «не самыя горшыя»: у камеры на чатыры месцы ўтрымліваюцца пяць чалавек; адносіны паміж імі нармальныя.

*БелаПАН*

# Тры гады без суда

**У Магілёве падыходзіць да фінішу адна з самых доўгіх крымінальных справаў Беларусі. На наступным тыдні абласны суд павінен вынесці прыгавор вядомаму прадпрымальніку Барысу Кліменку. За кратамі ён знаходзіцца ўжо амаль тры гады.**

Пра гэтую гісторыю газета СВАБОДА паведамляла яшчэ ў 1995 годзе, калі Кліменка раптам апынуўся за кратамі. Яго, буйнога прадпрымальніка, уладальніка гандлёвага дома, некалькіх фірмаў і адначасова члена ЦК кампартыі, абвінавацілі ў буйных крадзяжах і службовых махінацыях. Тады Кліменку фактычна адпомсцілі свае ж. Бізнесмен самавольна вылучыўся ў парламент па акрузе, якую камуністы меркавалі аддаць іншаму кандыдату.

Барыс Кліменка выбіўся ў вялікія людзі напачатку 90-х. Свой бізнес ён вёў, абапіраючыся на сувязі сярод былога партыйнага кіраўніцтва вобласці, якое засталося пры ўладзе. Тады ў памяшканнях, якімі фактычна распараджаліся партыйныя босы, размясцілася Магілёўская ўніверсальная рэгіянальная біржа і Фонд развіцця Магілёва (гэта былі структуры Кліменкі). Да часу ягоная дзейнасць не выклікала вялікай увагі адпаведных органаў — у бізнесмена былі высокія абаронцы, а праз фірмы Кліменкі дзяржаўныя структуры ажыццяўлялі вялікія закупкі. Менавіта гэтыя аперацыі пазней і сталі падставай для арышту: Кліменку абвінавацілі ў тым, што ён павінен быў набыць на дзяржаўныя грошы зерне ў Казахстане, грошы атрымаў, але зерня ў вобласці не пабачылі. Інкрымінуюць Кліменку і іншыя падобныя злачынствы.

Але ўвогуле справа Кліменкі вельмі нагадвае справу другога вядомага магілёўскага бізнесмена — былога кіраўніка камбіната шаўковых тканінаў Уладзіміра Сямёнава, які стаў ахвярай кампаніі па барацьбе з карупцыяй і таксама адседзеў за кратамі да суда амаль два гады. Назіральнікі прагназуюць, што лёс Кліменкі будзе аналагічны — вялікі тэрмін зняволення.

Дзяржаўныя газеты характарызуюць Кліменку як найвялікшага махляра, пракурор патрабуе для бізнесмена 15 гадоў турмы. Сам Кліменка вінаватым сябе не прызнае.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Міліцэйская кааперацыя

**Міністры-міліцыянты мараць пра больш моцны «рэжым» супрацоўніцтва**

Віцэ-прэм'ер і міністр унутраных справаў Расіі Анатоль Кулікоў прыязджаў у Мінск на святкаванне Дня беларускай міліцыі 4 сакавіка. Кулікова пасялілі ў Заслаўскай рэзідэнцыі, для яго выступалі зоркі беларускай эстрады і нават спявак родам з Маладзечна Юрый Антонаў спяваў пра «крышу дома своего».




*На здымку: міністры А.Кулікоў і В.Агалец.*

Але пакуль справа дайшла да канцэрта ды банкету, правялі паседжанне калегіі абодвух міліцэйскіх ведамстваў. Пачалі з таго, што назвалі вынікі супрацоўніцтва за мінулы год «вельмі эфектыўнымі». У прыватнасці, паведамлялася пра 200 тон кантрабанднага спірту, канфіскаванага на беларуска-расійскай мяжы, а таксама пра 13 крымінальных «аўтарытэтаў», арыштаваных у выніку міліцэйскай кааперацыі. Такіх фактаў магло б быць значна больш, лічыць Анатоль Кулікоў, калі б следчым групам дазволілі пранікаць на тэрыторыю суседняй краіны без папярэдняй згоды ўладаў.

А ўвогуле, А.Кулікоў ганарыцца сабой: на прэс-канферэнцыі ён назваў беларуска-расійскае супрацоўніцтва «ўзорным для міліцыянтаў усяго СНД». Між тым, выступаючы на ўрачыстым паседжанні ў сувязі са святкаваннем Дня беларускай міліцыі, дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман падкрэсліў, што «матэрыялізацыі рашэнняў у сферы сумеснай барацьбы са злачыннасцю ў Беларусі і Расіі пакуль не назіраецца».

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

# Зянону Пазьняку прысудзілі ўзнагароду

**Як кожнае сапраўднае спаборніцтва, «Алімпіяда Маладога Фронту», якую на працягу месяца праводзілі ў Мінску маладыя апазіцыянеры, скончылася ўручэннем узнагародаў. Па словах арганізатараў алімпійскай акцыі, у яе спаборніцтвах удзельнічала больш за паўтысячы чалавек.**

У апошнія моладаалімпійскія дні прайшлі спаборніцтвы па шахматах, футболе, стральбе і эстафетным бегу. У шахматным турніры перамог мінскі студэнт Святаслаў Едчык, а ў футбольным (ён прайшоў каля Камсамольскага возера, якое апазіцыянеры пераназвалі ў Маладафронтаўскае мора) каманда «Захад-98» перамагла «Скарбнікаў ВКЛ» і каманду ветэранаў БНФ «Дзіды». Мы паведамлялі ўжо, што конкурс «Малады снайпер-98» на прызы Лі Харві Освальда выклікаў пільную нездаровую цікавасць з боку пракуратуры. У знак салідарнасці з палітзняволенымі Аляксеем Шыдлоўскім і Вадзімам Кабанчуком фронтаўскія алімпійцы правялі 3 сакавіка прабег-эстафету па мінскай кальцавой дарозе на 67 кіламетраў.

А яшчэ ў Мінску прайшла акцыя па пераназванні вуліцаў. Жыхары вуліцы Будзённага даведаліся, што цяпер жывуць на вуліцы імя генерала Булак-Балаховіча. Праспект газеты «Правда» пераназвалі ў праспект К.Тураўскага, а вуліцы Маякоўскага была вернутая яе гістарычная назва Ігуменскі тракт.

Акрамя пераможцаў чыста спартовых, арганізатары акцыі ўзнагародзілі алімпійскімі медалямі «За мужнасць» палітвязняў Аляксея Шыдлоўскага, Вадзіма Кабанчука, Вадзіма Лабковіча і мастака Рыгора Кійко (ён аўтар праекта медаля), а таксама жыхара Ганцавічаў Міколу Заньку, які неаднаразова праводзіў у сваім горадзе пікеты ў абарону арыштаваных. За асвятленне алімпіяды ў СМІ медалі атрымалі журналісты тэлекампаніяў ОРТ і РТР, агенцтваў Інтэрфакс і БелаПАН, а таксама газет «Имя», «Народная воля», НАВІНЫ, «Беларуская маладзёжная» і радыё «Свабода». Нам асабліва прыемна, што медаль атрымаў і карэспандэнт НАВІНАЎ Альгерд Невяроўскі.

Спецыяльная ўзнагарода «За вяртанне на радзіму» прысуджаная лідэру БНФ Зянону Пазьняку.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

# Завод ці багадзельня?

*Праз два гады ад большасці беларускіх заводаў застануцца руіны*

Работнікі гіганта беларускага машынабудавання завода «Гомсельмаш» напрыканцы мінулага года атрымалі заробак у памеры 60 працэнтаў мінімальнага спажывецкага бюджэту (МСБ). Астатняе — талонамі, якія можна атаварыць у спецыяльнай краме: з ёю адміністрацыя завода дамовілася разлічыцца, калі ў прадпрыемства будуць грошы.

На прадпрыемствах радыёэлектронікі справы з зарплатай выглядаюць яшчэ горш. За мінулы год сярэднемесячны заробак у «паяльнай» галіне павялічыўся з 81 да 103 долараў, а ў студзені, калі выплачваецца ўзнагарода па выніках года, 21 прадпрыемства з 55 налічыла сваім працаўнікам зарплату, вышэйшую за 100 долараў. І ўсё ж на 8 заводах галіны, перш за ўсё правінцыйных, налічылі менш за МСБ. На Лепельскім механа-зборачным заводзе, дзе самая вялікая зарплата была ў верасні (каля 69 долараў), у студзені яна склала толькі 36, што ніжэй нават за афіцыйную рысу беднасці. Многія жабракібамжы маюць больш.

## Пад дзіравым дахам

Не толькі Лепельскі МЗЗ ды «Гомсельмаш» ператвараліся ў багадзельні. Нават самыя высокія заробкі, што ў студзені налічылі ў Беларускім навукова-даследчым інстытуце ліцейнай прамысловасці (190 долараў, або 311% МСБ) і на Барысаўскім заводзе аўтатранспартнага электраабсталявання (164 долары, або 268% МСБ), сведчаць больш аб беднасці, чым аб дабрабыце. Па-першае, заробак гэты трэба дзяліць на ўсю сям'ю, прычым вынік будзе цалкам залежаць ад колькасці сямейнікаў. Па-другое, наш афіцыйны МСБ сапраўды мінімальны, і таму, напрыклад, плата за кватэру, камунальныя паслугі і грамадскі транспарт робяць у ім прабоіну, нібы айсберг у борце «Тытаніка». А калі ўжо здараюцца непрадбачаныя траты, то сямейны бюджэт адразу ідзе на дно. І гэта яшчэ не ўсё: афіцыйны МСБ разлічаны на нармальную «савецкую» сям'ю, якая мае кватэру, такую-сякую мэблю і іншы хатні рыштунак. А калі сям'я нічога гэтага нажыць не паспела — дык пры такіх заробках ужо і не нажыве.

Пакуль жа становішча з заработнай платай у Беларусі ўсё больш нагадвае сітуацыю на Ленскіх прыісках у 1912 годзе, калі старацелі атрымлівалі заробак талонамі і маглі атаварыцца толькі дарагімі і дрэннымі прадуктамі ў крамах сваёй кампаніі. Вядома, што тады справа скончылася трагедыяй, а царскі міністр унутраных справаў сказаў: «Так было, так будзе». Сёння ў Беларусі чыноўнікі кажуць іншае: «Як працуюць, так і зарабляюць».

Зрэшты, як лічыць старшыня галіновага прафсаюза работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання Аляксандр Бухвостаў, у Беларусі трагедыя здарылася, калі ўлады жорстка падавілі забастоўку метрапалітэнаўцаў, а прафсаюзы не змаглі ці пабаяліся праявіць у імі выразную салідарнасць. У выніку працоўныя страцілі ўсялякую ўпэўненасць у трываласці прафсаюзнага «даху», а разам з тым і гатоўнасць да актыўнага пратэсту.



*Рабочы ліцейнага цэха абедае: грошай хапіла толькі на кефір...*

Як паказваюць сацыялагічныя даследаванні, гатоўнасць рабочых да масавых акцыяў за некалькі апошніх гадоў знізілася (тут прыкладная рысай стала змена ўлады) з 70% да 30-35%. Людзі незадаволеныя, але вывесці іх на вуліцы вельмі складана.

Па словах Бухвостава, цяпер акцыі пратэсту не набудуць масавасці, таму, не адмаўляючыся ад актыўных формаў дзеяння, трэба засяродзіць увагу на разбурэнні міфаў і веры ў куміраў. У адваротным выпадку прафсаюзы, якія ў адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі павінны быць незалежныя ад дзяржавы і прадстаўляць асобныя ад дзяржаўных спецыфічныя інтарэсы, проста страцяць свой інстытуцыянальны статус, ператворацца ў нешта накшталт Працоўнага фронту ў нацысцкай Германіі, прыдуманых Мусаліні «карпарацый» ці «школ камунізму» ў СССР.

Параўнанні, на першы погляд, недарэчныя. Тым больш, што ў краіне дэклараваныя і нават заканадаўча пацверджаныя прынцыпы трохбаковасці: штогод падпісваецца Генеральнае пагадненне, галіновыя тарыфныя пагадненні, калектыўныя дагаворы, у якіх акрэсліваецца ўвесь комплекс адносінаў паміж работнікамі і наймальнікамі.

*(Працяг на стар. 4)*

# БНФ не прав

Уважаемый редактор. Прошу опубликовать мой краткий ответ на статью Сергея Наумчика «Пятля для беларусаў», в которой автор предъявил ряд претензий руководству Объединенной гражданской партии.

Ни для кого не секрет, что Белорусский Народный Фронт — наш естественный союзник. Объединенная гражданская партия всегда стояла и стоит на позиции всемерной поддержки любых инициатив БНФ, как и других политических партий и общественных объединений, направленных на укрепление суверенитета страны, на установление конституционной законности и демократии. ОГП и ее парламентская фракция «Гражданское действие» за несколько месяцев до референдума инициировала импичмент Лукашенко, который не состоялся из-за колебаний части руководства Верховного Совета и Конституционного суда. В последующем мы инициировали и возглавили Специальную комиссию по правовой оценке нарушений президентом Конституции и законов, превращение Верховного Совета в де-юре дееспособный орган власти — в целях прежде всего отстранения Лукашенко от власти или, для начала, объявления его в глазах цивилизованных государств нелегитимным, а также выступили инициаторами создания коалиционного Национального исполнительного комитета. К нашему глубокому сожалению, в рядах тех, кто выступил против этих инициатив, были не только всегда опаздывающие и колеблющиеся С.Шарецкий и С.Калякин, но и руководство БНФ. Что касается инициативы БНФ по сбору подписей под требованием об оставке Лукашенко, то Объединенная гражданская партия положительно относится к этой политической акции. Никаких возражений против этого у партии нет и быть не может.

Мы с большим уважением относимся как к БНФ, так и к его ведущим политикам. На правах коллеги я дал бы руководству Фронта совет: не тратить столько сил на доказательство прошлой своей непогрешимости. Люди мало ценят прошлые заслуги, они всегда живут сегодняшним и будущим. Иногда полезно вспоминать о политической судьбе Черчилля, это помогает.

Жизнь научила меня и моих коллег, что в любых явлениях необходимо видеть и бороться с причинами, а не с их следствием. Ни президентская, ни парламентская, ни иная другая демократическая форма правления, осуществляемая в рамках, определенных Конституцией, сами по себе не виновны в узурпации власти. Парламентская Германия не предотвратила появление Гитлера, нынешняя парламентская Словакия породила авторитарный режим премьер-министра, имеющий схожие черты с президентским режимом Лукашенко. Тем временем в соседних президентских Польше и Литве господствуют конституционная законность и демократия. И вы, г-н Наумчик, это прекрасно знаете, однако свои сомнительные политические пристрастия пытаетесь превратить в непреложную истину. Непорядочно это.

От того, что оппозиция БНФ, будучи в меньшинстве, голосовала против введения президентской власти, не делает Конституцию 1994 года нелегитимной. Это элементарно. Конституция 1994 года, разумеется, нуждается в дальнейшем совершенствовании, в некотором ограничении полномочий президента и расширении контрольных функций парламента и Конституционного суда, однако она безусловно легитимна. И конституционные положения о президенте, разумеется, тоже. БНФ это признал, выдвинув на выборах 1994 г. своего кандидата в президенты.

Согласно Конституции выборы президента должны состояться не позднее июля 1999 года. Выгодно или нет диктатору либо оппозиции проведение выборов в конституционные сроки — вопрос праздный. Оппозиция должна быть готова к любому развитию событий. Обязанность всех демократических сил страны — использовать легитимные возможности избирательной кампании для нанесения поражения Лукашенко, либо, в худшем случае, для существенного ослабления этого режима.

Видимо, руководство БНФ находится в плену пропаганды о непобедимости Лукашенко, не замечает обреченности этого режима, его крупных политических и экономических ошибок, все большей внутренней и международной изоляции, нарастающей тенденции отрицательного имиджа, особенно в среде деловых людей, чиновничества, интеллигенции и молодежи. В этом истоки вашего явного пессимизма. Вместе с тем объединенная оппозиция при твердой поддержке международной общественности в состоянии обеспечить своему народу право на выбор (между доведшим страну до нищеты и несвободы диктатором и нашим общим кандидатом) и победить. Будущее страны требует от политиков и прежде всего от руководства БНФ не ставить собственные политические амбиции выше интересов нации и демократии. Единый кандидат от всей демократической оппозиции, твердо стоящий на платформе суверенитета, государственной независимости, конституционной законности и демократии должен быть согласован. Победа и кардинальное изменение ситуации в стране в течение 2—4 лет вполне реальны. Требуется лишь единство и политическая воля.

Ситуация в Беларуси отнюдь не уникальна. Белорусы как нация во многом похожи на другие народы. Представления, что поляки или литовцы избрали себе прагматичных центристов, а белорусы не способны подняться над своими заблуждениями и всегда готовы поддержать лишь популистов, лишь харизматического «героя» Лукашенко, абсолютно неверны. Беларусь богата, в том числе и достойными народа политиками. И за ними будущее.

**Станислав БОГДАНКЕВИЧ,**
*председатель Объединенной гражданской партии*

# Демократам надо договориться

Очень приятно, что на страницах вашей газеты можно встретить широкий спектр мнений по различным аспектам политической и экономической ситуации в Республике Беларусь. Многие аналитические статьи В.Казначеева, А.Старикевича, О.Груздиловича и других авторов дают повод задуматься о дальнейшем пути, по которому должна пойти наша страна. С чем-то я соглашаюсь, с чем-то нет — каждый имеет свое мнение, свой взгляд на вещи. Но очень удивляет тон статьи С.Наумчика «Пятля для беларусаў», опубликованной у вас 20 февраля. В связи с этим позвольте мне дать свою оценку проблемам, которые были высказаны уважаемым мною г-ном Наумчиком.

В статье анализируются две главные темы: 1. Проблема существования института президентства в Республике Беларусь; 2. Об отношении различных политических сил к этой проблеме. Обсудим эти вопросы.

Вспомним 1994 год. Президентские выборы. Вопреки всякому здравому смыслу демократическими силами была сделана попытка выдвинуть трех кандидатов на пост президента — Г.Карпенко (который был вынужден, после довольно некрасивого эпизода, снять свою кандидатуру), З.Пазьняк, С.Шушкевич. Не будем вдаваться в рассуждения о том, почему так произошло, и только ли о том, *«каб давесці да насельніцтва прыярытэты нацыянальнага адраджэння»*, думал З.Пазьняк, участвуя в президентской кампании. Наверное, каждый из трех претендентов почувствовал запах власти, и поэтому договориться не было возможности. Видимо, из этого печального опыта и исходит Объединенная гражданская партия, призывая *«согласовать единую кандидатуру от демократических сил на выборы президента Республики Беларусь»*. Не дай Бог, если снова повторится ситуация 1994 года.

Вспомним еще один аспект. ОГП признает Конституцию 1994 года, по которой выборы президента Беларуси должны состояться в 1999 году. Согласитесь, трудно обвинить в непоследовательности партию, которая стремится соблюсти основные принципы Основного закона. Обсуждение кандидатуры единого кандидата никак, кстати, не мешает проводить сбор подписей за отставку Лукашенко. В необходимости вести работу в этих двух направлениях лично я не сомневаюсь. Только обратит ли внимание сам г-н Лукашенко на подписи пусть даже 100-200 тысяч белорусов?

Про Лукашенко можно говорить что угодно, однако в непоследовательности упрекнуть его тяжело. Поэтому у меня лично сомнения в том, состоятся или нет выборы в следующем году, отсутствуют. В 1999 году Лукашенко их не допустит, потому что по его конституции они должны состояться намного позже, хотя в следующем году шансов на переизбрание у нынешнего президента очень много. На этом оппозиция и может сыграть, напоминая электорату, когда в действительности избирался А.Г. и законны ли его нынешние полномочия. Однако еще раз подчеркну, выступая за выборы 1999, мы выступаем за Конституцию 1994.

Демократия подразумевает широкий спектр идей и мнений, которые в итоге и двигают демократическое общество вперед. Подвергая яростным нападкам своих же соратников по сопротивлению режиму, г-н Наумчик все дальше и дальше отдаляет тот день, когда оппозиция в Беларуси будет называться Объединенной Белорусской Оппозицией. Неужели у БНФ, ОГП, социал-демократов и других цивилизованных партий и общественных организаций нет больше занятия, как выяснение взаимоотношений между собой на радость существующему режиму?

**К.НОВЫШНЫЙ,** *г.Минск*

# Посольство США уточняет...

Господин главный редактор. К нашему сожалению и не к чести газеты, в номере НАВІНАЎ за 30 января (материал «Хочаш наведаць Амерыку?») была допущена небрежность в подаче информации, имеющей отношение к США. В частности, у нас вызывает недоумение то, каким образом представлены причины, по которым Правительство США приняло решение о повышении невозвращаемого сбора, взимаемого при обращении за визой.

Сбор, взимаемый при обращении за визой, был действительно введен в 1994 г. и был призван компенсировать расходы по установке и применению нового, более совершенного оборудования для обработки заявлений о выдаче визы и самих виз. Сбор взимается консульскими учреждениями США по всему миру независимо от того, выдается виза или в выдаче отказывается. Размер сбора (20 долларов) был в момент введения установлен произвольно; проведенное недавно независимое исследование показало, что эта сумма не соответствует реальным расходам при обработке заявления о выдаче визы. Как введение, так и повышение сбора до 45 долларов США было продиктовано теми соображениями, что консульские услуги должны в полном объеме оплачивать их потребители, а не американские налогоплательщики. Средства, собранные за счет взимания сборов, переводятся в Государственный департамент США и даже частично не идут на оплату труда штатных сотрудников Посольства США, в том числе и персонала консульской службы.

Обращаем Ваше внимание и на то, что Правительство США пошло на значительное снижение сбора за выдачу визы — с 30 долларов до 5 долларов США. Таким образом, при условии выдачи визы расходы заявителя остаются теми же, что и ранее.

Мы надеемся, что редакция найдет способ устранить это недоразумение.

С уважением,

**Диана МАКСИ,**
*первый секретарь Посольства США в Республике Беларусь*

# Парламентская республика для нас не выход

Добрый день, уважаемая редакция! Написать вам меня заставила статья Наумчика «Пятля для беларусаў». Основной ее идеей является лозунг: «Даешь парламентскую республику!». Позвольте, но у нас до июля 1994 г. была уже парламентская республика, которая как раз и породила Лукашенко. Тем, у кого короткая память, напоминаю, что между деятельностью на ниве сельского хозяйства и президентским креслом Лукашенко был депутатом парламента. Свое депутатство он и использовал как трамплин для прыжка за властью. И это закономерно. У нас нет культуры политической деятельности, у нас не принято идти на уступки и компромиссы (а без этого не может существовать стабильная парламентская система). Кроме того, в наших условиях нет ни одной партии, которая смогла бы завоевать большинство голосов и сформировать правительство. Следовательно, потребуется создавать коалицию. А парламентские коалиции крайне не устойчивы, а значит, неустойчивой будет и государственная система власти.

Кроме того, надо учитывать субъективные факторы. Наши демлидеры, вопя о диктатуре, так и не смогли объединиться, чтобы бороться с этой самой диктатурой. Более того, они с удовольствием подставляют друг друга, обвиняя при этом во всех смертных грехах. На примере Петра Кравченко можно сказать, что демократизм и свободолюбие некоторых наших демлидеров кончается там, где начинаются служебные авто, посольские должности, мягкие кресла.

Очень наивно полагать, что, придя в парламент, вся эта публика дружно возьмется за работу на благо Родины, позабыв амбиции. Как бы не так! Они перегрызут глотки друг другу за посты и портфели, добив и без того агонизирующее государство.

**Андрей П.,** *г.Минск*

# Прывід эміграцыі

**На Беларусі праблема эміграцыі існуе — і ў той жа час яе быццам няма. Пра эміграцыю гавораць, але яна не робіцца з'явай. Выказваюцца прагнозы аб магчымай яе масавасці, але масавай яна не становіцца.**

## Марныя спадзяванні

Адзін мой прыяцель, апынуўшыся за мяжой і назіраючы павольнае стварэнне новай беларускай эміграцыі, напісаў мне: «галоўнае, каб эміграцыю нехта пачаў, астатнім стане зайздросна...». Але побач з іранічным запісам суседнічае фатальны: «Трагедыя нашых палітычных эмігрантаў у тым, што яны спадзяюцца праз год-два-тры вярнуцца. Але атрымліваецца, што ад'язджаюць назаўсёды. Бо на Бацькаўшчыне нічога не мяняецца».

## «Эмігранцкая песня»

Класік нашай літаратуры Максім Багдановіч у 1914 г. напісаў сваю «Эмігранцкую песню». Калі мы вучыліся ва універсітэце, сябра гаварыў мне, што нібыта аднайменная кампазіцыя сусветна вядомага гурта *Led Zeppelin* напісана менавіта на вершы Багдановіча. Пазней, калі мне ўдалося купіць кружэлку «Зэпелінаў» з гэтай песняй, я паглядзеў, хто аўтар тэксты: прозвішча было англійскае. «Красці» ў Багдановіча не было патрэбы, пра яго існаванне *Led Zeppelin* увогуле наўрад ці ведаў.

Але для нас «Эмігранцкая песня» паэта застаецца класікай. З яе вынікае, што беларусы ехалі ў далёкую Амерыку толькі таму, што ім не хапала дома хлеба. А потым на чужыне ім заўжды ўспаміналіся «вёсачка, Нёман і агні партавыя Лібавы» — дзе яны сядалі на параход.

Паэт напісаў гэты верш, моцна ўражаны артыкулам у «Нашай Ніве», у якім паведамлялася, як эмігранцкая кантора ў Конга прадала ў Амерыку 230 беларусаў па 80 рублёў за кожнага. Гэта быў пачатак 1914 года.

Напачатку гэтага стагоддзя шмат беларусаў выехала ў заробкі на Захад, пераважна ў Амерыку. Гэта была эканамічная эміграцыя. Хоць даследчык гісторыі эміграцыі В.Кіпель, які жыве ў Нью-Йорку, сцвярджае, што частка беларусаў ужо тады пакідала Радзіму па палітычных прычынах. Дарэчы, ён таксама адзначае, што ва ўсе часы беларускія эмігранты лічылі, што выязджаюць часова, спадзеючыся, што змогуць хутка вярнуцца дахаты, але рэчаіснасць была іншай.

Прадзед майго сябра, зарабіўшы ў Амерыцы грошы і купіўшы там свой дом, вярнуўся ў 1914 г., каб забраць сям'ю. Але пачалася вайна, яго забралі ў рускую армію, і ён загінуў на фронце. Часта мэтай замежных заробкаў было купіць кавалак зямлі і дом тут — у роднай вёсцы ці мястэчку. А потым прыходзіў у 1939 г. у Заходнюю Беларусь бальшавікі і ўсё адбіралі. Такія гісторыі мне таксама даводзілася чуць.

## «Беларускі Дом»

Эканамічныя эмігранты, якія аселі ў Штатах, растварыліся ў амерыканскім моры, паколькі не мелі выразнай нацыянальнай самасвядомасці. Член Рады БНР Язэп Варонка, некалькі ўдзельнікаў Слуцкага паўстання, якія трапілі ў ЗША, не маглі змяніць сітуацыю.

Большасць палітычных уцекачоў засталася ў Польшчы, Літве, а таксама ў Чэхаславакіі — непадалёк ад «Беларускага Дома» — як называў БССР у сваіх прамовах у польскім сейме Браніслаў Тарашкевіч. Частка з іх (і ён сам) потым вярнулася ў гэты «дом», каб загінуць.

Як ні дзіўна, сёння мы назіраем вяртанне землякоў з абшараў былога СССР — менавіта як у гэты самы «беларускі дом». На тэлебачанні нават перадачу пад такой назвай зрабілі. Нехта прыязджае, каб проста памерці на роднай зямлі. Але шмат каго прываблівае створаны імідж надзейнай, палітычна стабільнай, без войнаў і нацыянальных канфліктаў, амаль што былой савецкай краіны. Пра гэта гаварылі мінулым летам некаторыя ўдзельнікі Другога з'езда беларусаў свету. Як ні недарэчна, а менавіта Лукашэнка ўспрымаецца як гарант усяго гэтага і ледзьве не стваральнік Беларускай дзяржавы. Карацей — сапраўдны «бацька» ўсіх беларусаў. Зрэшты, падабенства паміж «беларускім домам» 30-х і 90-х гадоў таксама ёсць: для нацыянальных дзеячаў ён часта аказваецца турмой.




## Прага

У сталіцы Чэхіі, дзе да вайны існавала пераважна студэнцкае зямляцтва беларусаў, уражвае салідны помнік Ф.Скарыну і амаль поўная адсутнасць іншых беларускіх слядоў. Хоць гэта адзіны горад у свеце, дзе ёсць дзве магілы прэзідэнтаў Рады БНР. На праваслаўных могілках, пад плітамі з гербам «Пагоня» спачываюць П.Крачэўскі і В.Захарка, якія памерлі ў 1928 і 1943 гадах. Побач — магіла вядомага спевака М.Забэйды-Суміцкага і дзве-тры магілы царскіх генералаў з яўна беларускімі прозвішчамі. І гэта ўсё. Яшчэ адну беларуску — Л.Геніюш — служба Берыі ў 1948 г. вывезла з Прагі ў савецкі канцлагер.

Пражскія студэнты таксама, як матылькі на агонь, імкнуліся назад у «беларускі дом» і гінулі. Альбо, затрымаўшыся ў Заходняй Беларусі, мелі большыя шанцы выжыць, паколькі ў Саветах кожны загадзя лічыўся нацыяналістам і шпіёнам.

Сёння Прага стала зноў прывабнай, прычым не толькі для беларускіх турыстаў. Сенсацыя аб тым, што чэхі даволі лёгка (у параўнанні з палякамі) згаджаюцца даць беларусам палітычны прытулак, натхніла пэўную колькасць людзей таксама паспрабаваць свайго шчасця.

Адзін мой калега таксама з'ездзіў у Прагу, каб «празандзіраваць глебу». Вярнуўшыся, ён цалкам адмовіўся ад сваёй ідэі. Чаму? Іхняя рэдакцыя скончыла сваё існаванне «дзякуючы» ўладам, але ж пакуль можна пайсці працаваць у іншую газету, урэшце зарэгістраваць новую. Проста ўцячы дзеля саміх уцёкаў — гэта не для кожнага. У Празе яму давялося паразмаўляць з адной сям'ёй з Абхазіі. Яны ўцяклі ад вайны, ад міжнацыянальных сутычак, ад нястачы. А калі мы хочам, каб нашыя дзеці жылі ў дэмакратычнай Беларусі, трэба заставацца — да апошняй магчымасці.

Мой прыяцель, якога я працытаваў у самым пачатку, напісаў на гэты конт: «Палітычная эміграцыя падзяляецца на два тыпы: сапраўдная і, так бы мовіць, аўтарская. Адны людзі сапраўды мусяць ратавацца, але іншыя — самі ствараюць сабе ўмовы для палітычных уцёкаў». І як заўсёды, сітуацыю імкнуцца выкарыстаць розныя маргіналы.

Быў у Гродне такі чалавек — Якаўлеў. Гледзячы на яго, было цяжка зразумець: ці ён нейкі правакатар, ці ў яго, мякка кажучы, папросту «не ўсе дома». Ён займаўся кіпучай дзейнасцю, хадзіў на сходы і мітынгі, ездзіў у Маскву, у Вільню — каб задаць нейкае пытанне Гарбачову, які спрабаваў угаварваць літоўцаў. Потым гэты чалавек хваліўся, што яго ледзьве не застрэлiў ахоўнік, калі ён кінуўся да Раісы Максімаўны, каб перадаць ёй цыдулку.

Пазней ён некуды знік. А нядаўна раптам з'явілася ў Чэхіі, каб атрымаць палітычны прытулак. Канечне, чэхі павінны высветліць, што ён за «фрукт», як гэта заўсёды і робіцца. Але на гэта патрэбны час, а Якаўлеў, не чакаючы, раздае інтэрв'ю газетам і тэлебачанню, выстаўляючы сябе палітычнай ахвярай. Ахвярай чаго? — хочацца запытаць.

## Амерыка

Трэба прызнаць, што і сёння большасць нашых людзей, якія знаходзяцца на Захадзе, — гэта не палітуцекачы, а тыя, каму проста ўдалося выехаць на працу і хто не хоча вяртацца ў краіну, дзе ўсё непрадказальна. Частка гэтых людзей сімпатызуе, напрыклад, БНФ і нават чымсьці дапамагала: займаліся агітацыяй у выбарчую кампанію і г.д. Адзін мой знаёмы актывіст Фронту атрымаў ужо з дзесятак лістоў з-за мяжы з адзінай просьбай — даць палітычную рэкамендацыю, пацвердзіць удзел у акцыях і кампаніях БНФ. Аказваецца, такая рэкамендацыя мае вагу для тых, хто вырашыў замацавацца ў чужой краіне. І мой знаёмы, як правіла, не адмаўляе. Хоць я магу ўявіць, што ў яго можа выклікаць прыкрасць такая акалічнасць: тыя, каму сапраўды пагражае небяспека, каго пераследуюць, як правіла, вырашаюць трымацца на Беларусі да апошняга.

Беларусы пакуль застаюцца нацыяй дамаседаў. Але ім асабліва няма да каго ехаць. У Чыкага, напрыклад, існуе 50 менавіта польскіх каталіцкіх парафіяў. Беларуская прысутнасць значна больш сціплая. Гэтую сітуацыю з горыччу абмаляваў беларускі паэт з Амерыкі Рыгор Крушына:

*Дзесьці ў садзе гукаў папугай:*
*— О, бамбіна, бамбіна, мы здрова,*
*Гутэн таг, яўхарыста, гуд бай...*
*З беларускае мовы — ні слова.*

Але дзеля справядлівасці трэба зазначыць, што ў Нью-Йорку колькасць новых палітычных эмігрантаў з Беларусі пачала пакрысе павялічвацца.

## Польшча

Канечне, для большасці беларусаў Амерыка не патрэбная, ім бы лепей падышла эміграцыя побач з домам — у Польшчы. Але палякі за ўвесь час, як бы дзеля прыліку, ашчаслівілі толькі аднаго беларуса. Таму пазіцыя польскіх уладаў у нашым палітызаваным асяроддзі ўспрымаецца вельмі негатыўна. Так, нядаўна даводзілася чуць непрыхільныя словы: палякі дбаюць толькі пра **сябе, як ім трэба — яны заяўляюць** пра сябе на поўны голас, а як трэба дапамагчы іншым, яны робяць выгляд, што нічога не заўважаюць.

Спрачацца з гэтым цяжка. Але трэба прызнаць, што ваенната становішча (як у Польшчы ў 1981 г.) у нас няма, савецкія танкі не акупіравалі Мінск (як Прагу ў 1968 г.) і мы пазбегнулі «баснійскага варыянту». А толькі ў падобных катастрафічных выпадках заходнія краіны адкрываюць свае межы, каб ратаваць ахвяры.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Завод ці багадзельня?

(Пачатак на стар. 2)

Але гэта толькі на першы погляд. Бо на самой справе ў прафсаюзаў адсутнічае галоўнае — свабода вядзення перамоваў са сваімі сацыяльнымі партнёрамі — працадаўцамі. Праяўляецца гэта ў тым, што дзяржава парушае прынцып неўмяшання ў ход перагавораў (такая аўтаномія па стандартах Міжнароднай арганізацыі працы павінна быць забяспечаная ўсім, у тым ліку і дзяржпрадпрыемствам) і ўстанаўлівае межы павышэння зарплаты. Таму цана працоўнай сілы ўсё больш адстае ад цэнаў адносна свабоднага спажывецкага рынку.

## Такія грошы ёсць і па-за прахадной

Выходзіць, што эканамічны рост, пра які ўлады трубяць па ўсіх вуглах, ідзе за кошт звышэксплуатацыі. Гэта быццам бы разумеюць усе, але ж ніхто нічога слушнага не прапануе і не робіць.

У радыёэлектроніцы, напрыклад, дзе працуюць 100 тысячаў чалавек, зарплату больш за тры МСБ маюць менш 2 % работнікаў. На думку Генадзя Фядыніча, лідэра галіновага прафсаюза, гэта супярэчыць нават лукашэнкаўскай канстытуцыі, якая дэкларуе права чалавека на прыстойнае жыццё, а прэзідэнта робіць гарантам такога жыцця.

Пакуль жа ўлады ў асноўным клапоцяцца пра тое, каб у людзей была работа, і забараняюць масавыя звальненні. Але за два гады радыёэлектронная галіна страціла больш за 40 тысячаў найбольш кваліфікаваных і энергічных работнікаў, якіх не магла задаволіць ні «ўмоўная» занятасць, ні абсалютна ўмоўны заробак. Хопіць пальцаў адной рукі, каб пералічыць маладых спецыялістаў, якія ў мінулым годзе адважыліся прыйсці на прадпрыемствы. Ніхто не хоча звязвацца з прапускным рэжымам дзеля зарплаты ў два мільёны. Такія грошы можна зарабіць і па-за прахадной.

Усім ужо нагнала аскому скрытае беспрацоўе, калі «робяць» працоўныя кніжкі, а людзі шукаюць, дзе, што і як зарабіць збоку. Напрыклад, гомельскаму «Кагалу», чый шлюб з замежным інвестарам не адбыўся, нягледзячы на ўсе намаганні беларускіх уладаў і асабісты патранаж прэзідэнта, патрэбная жорсткая рэструктурызацыя, што непазбежна пацягне скарачэнне амаль 1,5 тысячы работнікаў. Пакуль яны «кормяцца» на гарадскіх рынках і чакаюць кампенсацыі за шматмесячныя вымушаныя прастоі. Маюць права. Але што права, калі ў заводскай касе грошай няма нават на выплату належнай пры звальненні дапамогі. Таму людзей з прадпрыемстваў «выцiскаюць» маленькімі заробкамі і жорсткімі патрабаваннямі наконт працоўнай дысцыпліны.

І даволі паспяхова. Калі меркаваць па словах Эдварда Кісяля, дырэктара Беларускай навукова-вытворчай асацыяцыі па сацыяльна-эканамічных праблемах (дарэчы, прадстаўніка наймальнікаў), за апошнія гады занятасць у эканоміцы зменшылася прыкладна на 1 мільён чалавек. Яны аддаюць перавагу любому — шэраму ці чорнаму, але бізнесу — перад працай на занепалых дзяржпрадпрыемствах.

## МСБ для неандэртальца

Як лічыць Эдвард Кісель, сёння гаворка павінна ісці не пра зарплату, а пра кампенсацыю вартасці жыцця, якую раздаюць на прадпрыемствах у форме зарплаты. А зарплата сёння павінна быць не менш за 7-8 мільёнаў. Акрамя таго, сам МСБ прыдуманы быццам бы для неандэртальцаў, а не для жыхароў сучаснай еўрапейскай краіны. Бо што гэта за бюджэт, калі 60% яго трэба патрацiць на харчаванне, а на грамадскі транспарт прадугледжана ўсяго 57 тысячаў рублёў — пры кошце праязнога білета на адзін від транспарту ў 110 тысячаў. На кватэрплату афіцыйна адводзіцца 113 тысячаў. Дзе хто бачыў такую кватэрплату? Вось і выходзіць: спажывай свой МСБ, хадзі пешшу і засяляйся, як той неандэрталец, у пячору.

А яшчэ падаткі. Калі чалавек зарабляе гэткі МСБ, на які і пракарміць сябе не можа, дзяржава дзярэ з яго падаткі. А зарабляеш трохі болей, дык павінен значную частку аддаць дзяржаве.

Што рабіць? Элементарная, відавочная, нават прымітыўная логіка падказвае: заканадаўча павінна быць устаноўлена, што мінімальны заробак павінен раўняцца МСБ, а меншая сума не павінна абкладацца падаткам. І прадпрыемствам, якія не могуць выплачваць такія заробкі, папросту не павінна быць.

Але ж калі так зрабіць, дык значная колькасць прадпрыемстваў збанкрутуе, «афіцыйнае беспрацоўе» павялічыцца (бо беспрацоўным трэба будзе плаціць добрую дапамогу), а паказчыкі аб'ёмаў вытворчасці знізяцца. У краіны з'явіцца шанец на збаўленне ад эканамічнага краху, а ўсю аптымістычную статыстыку — як карова языком зліжа.

Ясна: ніякі чыноўнік на гэта не пойдзе. Ён хутчэй адкусіць сабе язык, чым зробіць такую прапанову. Пакуль жа гэтыя людзі, нібы страусы, пахавалі галовы ў пясок, але распавядаюць казку пра тое, што ў Беларусі быллю стала небывальшчына: расце вытворчасць, павышаюцца даходы насельніцтва. Стаіць толькі беспрацоўе.

## Іржа

А тым часам карозіі падвяргаюцца не толькі людзі, галоўны рэсурс краіны, якім можна было б прывабіць інвестараў. Дэградуюць і самі прадпрыемствы. Яны ўжо не ўвасабляюць тэхнічны прагрэс, а праз 2-3 гады завершыцца натуральны працэс — ад беларускіх заводаў застанецца хіба што завалы з металаломy ў шкілетах вытворчых карпусоў.

Тады ўжо нічога не дапаможа.

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

